*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 17(402)** **28 КРАСАВІКА 1999 г.**

## з РЭЗАЛЮЦЫЯ

**шостага з'езда Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

Мова народа - гэта яго грунт, яго святыня. Не з'яўляецца выключэннем і беларускі народ, які цягам стагоддзяў уславіў сваю мову, пранёс яе праз нягоды і пакуты, захаваў і перадаў нашчадкам.

Аднак у Беларусі ёсць сілы, якія хацелі б "адмяніць" гэтыя і некаторыя іншыя спрадвечныя праўды, без якіх цяжка ўявіць нармальнае функцыянаванне грамадства. Беларуская мова выкідаецца на задворкі дзяржаўнага жыцця, зневажаецца і калечыцца агрэсіўным невуцтвам дэнацыяналізаванага чынавенства.

З'езд ТБМ лічыць такое становішча недапушчальным і звяртаецца да ўсіх грамадзян краіны, палітычных партый і грамадскіх арганізацый, працоўных калектываў, органаў дзяржаўнай улады і кіравання з заклікам зрабіць абарону беларускай мовы ўсенароднай справай.

**З'езд пастанаўляе**:

1. Умацаваць праваабарончы кірунак дзейнасці Таварыства праз абарону моўных правоў носьбітаў беларускай мовы і шырокае інфармаванне пра іх парушэнні.

2. Актывізаваць асветніцка-адукацыйную дзейнасць Таварыства. Распрацаваць спецыяльную праграму падтрымкі беларускамоўных адукацыйных устаноў. Працягваць дзейнасць, скіраваную на стварэнне беларускамоўных адукацыйных устаноў усіх узроўняў.

3. Спрыяць пашырэнню сфераў ужывання беларускай мовы "знізу". Усім сябрам Таварыства падтрымліваць вакол сябе беларускамоўную прастору ў пабытовай і службовай сферы, асабістым прыкладам спрыяць пранікненню мовы ва ўсе сферы сацыяльных зносін. Працягваць стварэнне беларускай электроннай інфармацыйнай прасторы.

4. Стварыць моладзевыя праграмы Таварыства, прапанаваўшы маладым сябрам ТБМ выявіць ініцыятыву, энэргію і веды ў справе пашырэння беларушчыны.

## ЗАЯВА

**шостага з'езда Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

Чатыры апошнія гады ў Беларусі афіцыйна і мэтанакіравана вынішчаецца нацыянальны характар адукацыі ўсіх узроўняў. Асабліва цынічна гэта робіцца ў сферы вышэйшай школы - беларуская мова як мова навучання тут практычна адсутнічае; **скасоўваюцца** беларусазнаўчыя дысцыпліны, **не плануецца** вывучэнне гісторыі Беларусі ў якасці самастойнага прадмета; **спынена** выданне тэрміналагічных слоўнікаў і беларускамоўных падручнікаў па прыродазнаўчых дысцыплінах. У нас **адсутнічае** вышэйшая навучальная ўстанова, дзе ўсе дысцыпліны выкладаліся б на мове карэннай нацыянальнасці! Немагчымасць атрымання вышэйшай адукацыі па-беларуску непазбежна вядзе да разбурэння беларускай сярэдняй школы.

Мы не можам мірыцца з афіцыйнай палітыкай русіфікацыі.

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны выказвае рашучы пратэст супраць антыбеларускай палітыкі ў сферы вышэйшай адукацыі і патрабуе ад дзяржаўных органаў забяспечыць беларусам права навучання на роднай мове.**

---

Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| Будаўнік з Менска | - 10 млн. |
| Граф Прушынскі(Канада) | - 1 млн. |

## ДА 10-ГОДДЗЯ ТБМ

**ПАСТАНОВА VI З'ЕЗДА ТБМ**

У чэрвені 1989 года, на магутнай хвалі нацыянальнага адраджэння паўстала наша Таварыства. Паставіўшы сабе за мэту аднаўленне ў грамадстве стаўлення да роднай мовы, як да нацыянальнай святыні ТБМ за лічаныя гады аб'яднала вакол сабе цэлы шэраг сяброў грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый, прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, пісьменнікаў, навукоўцаў.

Прымаючы пад увагу гэтую акалічнасць, з'езд ТБМ пастанаўляе: урачыста адзначыць 10-я ўгодкі ТБМ з шырокім удзелам грамадскасці.

**З'езд прапануе:**

1. Усім суполкам правесці работу дзеля тлумачэння мэтаў дзейнасці ТБМ.
2. Актытывізаваць дзейнасць ТБМ (збор подпісаў, тлумачальная праца па стварэнні Беларускага нацыянальнага універсітэту).
3. Правесці ў верасні ўрачыстае пасяджэнне Рады з удзелам грамадскасці (грамадскіх і культурных дзеячоў, навукоўцаў, беларускіх пісьменнікаў, гасцей з блізкага і далёкага замежжа).
4. Выдаць кнігу дакументаў аб дыскрымінацыі беларускай мовы ў Рэспубліцы Беларусь.
5. Падрыхтаваць інфармацыйны даведнік "Дзесяць год ТБМ: гісторыя і перспектывы", у якім акрэсліць этапы станаўлення і дзейнасці ТБМ, падаць інфармацыйную даведку аб кіраўніцтве, кіруючых органах, рашэннях з'ездаў ТБМ ( у перыяд з 1989 па 1999 гг).

Асобны раздзел даведніка прысвяціць перспектывам дзейнасці ТБМ.

Даручыць Сакратарыяту сфармаваць рабочую групу па падрыхтоўцы даведніка.

## Рашэнне

**VI з'езда аб перарэгістрацыі ТБМ.**

У адпаведнасці з дэкрэтам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 26.01.1999 года № 2 VI з'езд ТБМ **пастанаўляе:**

1. Прайсці перарэгістрацыю арганізацыі ў Міністэрстве юстыцыі Рэспублікі Беларусь;
2. Унесці неабходныя змены і дадаткі ў назву сваёй арганізацыі і Статут ТБМ у адпаведнасці з новым Грамадзянскім Кодэксам Рэспублікі Беларусь;
3. Даручыць Трусаву А.А., Дзіцэвіч Л.М., Лавіцкаму М.Е, Содалю У.І., Кручкову С.М. падрыхтаваць вышэйзгаданыя змены і папраўкі, надзяліўшы гэтых асоб паўнамоцтвамі прадстаўляць ТБМ у працэсе перарэгістрацыі і ў выпадку спрэчак у судзе;
Пацвердзіць сімволіку ТБМ, якая ўхвалена Дзяржаўным камітэтам па архівах і справаводству Рэспублікі Беларусь, і даручыць сп. Трусаву А.А., Дзіцэвіч Л.М., Содалю Ул.І. прадстаўляць найменне ТБМ і яе сімволіку ў працэсе перарэгістрацыі.

---

ТЭЛЕГРАМА

КАРМА РАЙЦЭНТР 36 98 17/4 1830 =

МЕНСК СТАЛІЧНЫ ДОМ ЛІТАРАТАРА ФРУНЗЕ 5 СТАРШЫНІ З'ЕЗДА=

ВІНШУЮ УСІХ РОДНАМОЎЦАЎ З ЮБІЛЕЕМ.
ЦІ Ж ПРЫДЗЕ ТОЙ ЧАС, КАЛІ ЎСЕ БЕЛАРУСЫ БУДУЦЬ ШАНАВАЦЬ РОДНУЮ МОВУ. Ў КАРМЕ БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА СШ 1 ДЫРЭКТАРАМ Ю. І.ГРЫНЬКО ПЕРАВЕДЗЕНА НА РУСКАМОЎНАЕ ВЫКЛАДАННЕ ПЕРАСТАЛІ ІСНАВАЦЬ ДЗІЦЯЧЫЯ АНСАМБЛІ "ЗВАНОЧКІ" І "ВЕСЯЛІНКА" ШКОЛЬНЫ ХОР ЗНІК З ПЛАНУ ВЫХАВАЎЧАЙ РАБОТЫ. 6 ПА ЛІКУ ФЕСТЫВАЛЬ ШКОЛ "ЖЫВІ І СПЯВАЙ МАЯ РОДНАЯ БЕЛАРУСЬ" АРТЫСТЫЧНЫЯ КАСЦЮМЫ ДЗЯЦЕЙ АТРЫБУТЫКА СВЯТ ВЫКІНУТА СА ШКОЛЫ, ДАГНІВАЕ КРАЯЗНАЎЧЫ ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ УДЗЕЛЬНІК РЭСПУБЛІКАНСКАГА 1996г. КОНКУРСУ. ПРАШУ ДАПАМОГІ.
ВЫДАТНІК НАРОДНАЙ АСВЕТЫ БССР КАРМА КІРАВА 14 ТЭЛ 2-25 – 87

*Ліст з-за кратаў*

**Міхаіл Чыгір:**

## "Моваю Беларусі XXI стагоддзя будзе беларуская мова!"

17 красавіка ў памяшканні сталічнага Дома літаратараў прайшоў VI з'езд Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Да яго ўдзельнікаў са словам прывітання звярнуўся кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь, былы прэм'ер-міністр беларускага ўрада Міхаіл Чыгір, які цяпер знаходзіцца ў следчым ізалятары з нагоды абвінавачвання яго ў злачынствах, якіх, ён упэўнены, не рабіў.

Ліст з-за кратаў Міхаіла Чыгіра, зачытаны на з'ездзе, прапануем увазе нашых чытачоў.

**З'езду Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны.**

Шаноўныя грамадзяне і сябры!

Даруйце мае хваляванні – я, як вучань на экзамене перад шаноўнай камісіяй, спрабую ўспомніць тое, што так няўважліва слухаў і ў маленстве, і ў школе грамадзянскасці, якую мы з вамі праходзім. На свеце больш за 3 тысячы моваў і народаў – іх носьбітаў. Некаторыя з нашага чыноўнага люду запомнілі чамусьці толькі дзве – англійскую і рускую. Гэта дало ім права пахваляцца, што яны ведаюць ажно палову ўсіх моваў! Адныя напалову, другія абыходзяцца слоўным запасам бюракрата ў 30 слоў – і нічога, нават вучаць увесь свет, а свой народ заганяюць у рай дубінай... І чамусьці ніхто з іх не нагадвае сваёй голай"вертыкалі", што з 3 тысяч моваў у свеце толькі трыццаць (!) маюць больш чым па 10 мільёнаў носьбітаў. І сярод гэтых трыццаці буйнейшых моваў свету – наша, беларуская мова!

Інтэгратары з дубінай, высмеяныя яшчэ Коласам і Купалам, навязваюць нам тэзіс пра тое, што ўвесь свет інтэгруецца, і нам Бог казаў. Але ў іх няма часу дачытаць да канца звесткі пра інтэграцыйныя працэсы ў свеце. Так, ідзе глабалізацыя эканамічнага і палітычнага жыцця. Але ж адначасова ідзе і другі, сустрэчны працэс – ідэнтыфікацыя этнічная, дэзынтэграцыя імперый, рэгіянальнае супрацоўніцтва ў процівагу былым імперскім "сближениям и единениям"!

Нагадаем пра рух баскаў,... каталонцаў, курдаў, квебекцаў, пра лёс ірландскай нацыі. Сёння сама брытанская карона перажывае этнічны ўздым народаў вострава, нядаўна яшчэ цэнтра сусветнай імперыі. Набылі статус афіцыйных, поруч з англійскай моваі, мовы Уэлса і Шатландыі. Уэлс і Шатландыя, яшчэ ў сярэдзіне вякі "інтэграваныя" з Англіяй, сёння набылі свой парламент, адраджаюць родныя мовы. Гэта нешта зусім процілеглае працэсу "слияние в единый советский народ". Сусветная практыка, як бачым, сведчыць пра распад імперый, індэтыфікацыю этнасаў, а не здачу дзяржаўнасці і вынішчэнне родных моваў і культур. У той жа Югаславіі кожны народ далучаецца да сусветнай супольнасці непасрэдна, а не "делегируя свои полномочия центру". Асабліва бурны працэс пайшоў у Расійскай Федэрацыі, дзе кожны этнас "бярэ столькі суверэнітэту, колькі здолее засвоіць".

Дарагія мае настаўнікі і калегі! Дазвольце і мне прапанаваць свой радок у напісаньні вамі падручнікі. Як чалавек, дасведчыя ў палітыцы і эканоміцы, я з усёю перакананасцю заяўляю ўсім, хто чуе мяне: моваю Беларусі XXI стагоддзя будзе беларуская мова! Хай жыве нашай працай, нашай шчырасцю, нашым розумам Беларусь!

Міхаіл Чыгір,
Прэм'ер –міністр Беларусі ў 1994 – 1996 гг.

---

ТЭЛЕГРАМА

КЛЕЦК 28 ЧВ 46 17/ч 1500 =
СЕРЫЯ В5 МЕНСК 5 ФРУНЗЕ 5 САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ=

ДЭЛЕГАТАМ З'ЕЗДа ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ, ШЧЫРА ВІТАЮ УДЗЕЛЬНІКАЎ ФОРУМУ АБАРОНЦАЎ МОВЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ. БУДЗЕМ ВАРТЫЯ ІМЁНАЎ СКАРЫНЫ, КАЛІНОЎСКАГА, КУПАЛЫ, КОЛАСА, БАГДАНОВІЧА, МЕЛЕЖА, КАРАТКЕВІЧА, ЛАРЫСЫ ГЕНІЮШ. БЕЛАРУСКАЯ МОВА ПЕРАЖЫВЕ ШМАТ ПРЭЗІДЭНТАЎ ЯНА БЕСМЯРОТНАЯ. ЖЫВЕ МОВА! ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!
УЛАДЗІМІР ДАМАШЭВІЧ-
НННН 1525 17.04.0066/1





Валянцін Грыцкевіч, Санкт-Пецярбург

# Выступ на VI з'ездзе ТБМ (Менск)

Дарагія беларускі і беларусы!

Дарагія сябры, дазвольце Вас прывітаць ад імя Міжрэгіянальнай асацыяцыі беларусаў Расеі, якая арганізавалася 27.03.1999 г. насуперак супрацьдзеянням пэўных устаноў. Асацыяцыя правяла свой устаноўчы з'езд у Маскве па прынцыпах: перадусім беларуская мова, беларуская культура, Беларусь яе Радзіма. Гэты звяз непалітычны, ён аб'ядноўвае ўсіх тых, каму неабыякавы лёс беларускай мовы і культуры.

Раскажу трохі пра беларускую прысутнасць у Расеі.

Беларусы перасяляліся ў Расею здаўна, не пазней за XУ ст. Мне даводзілася спецыяльна вывучаць гістарычныя крыніцы па гэтай тэме, і я магу сказаць, што асабліва моцным і быў прыток беларусаў у Маскоўскую дзяржаву пад час інфлянцкай вайны XУІ ст., войнаў Расіі з Рэччу Паспалітай у XУІІ ст. і Паўночнай вайны пачатку XУІІІ ст, калі маскоўскія войскі перасялялі сотні тысяч беларусаў у Расею. Перасяленні пасіліліся і пасля ўзброеных супраціваў прыяднанню Беларусі да Расеі і паўстанняў XIX ст. Найбольш масавымі былі высяленні беларусаў сюды ў ходзе рэпрэсій часоў камунізму, індустрылізацыі, асваення цалінных зямель, вярбоўкі на лесараспрацоўкі Поўначы і на навабудовы.

Але беларусы пастаўлялі не толькі працоўную сілу у Расею. З другога пакалення беларусоў былі першая расейская імператрыца Кацярына І ўсяўладны палітычны дзеяч А. Меншыкаў, ваенныя міністры XIX ст. В.Сухазанет, П. Ваноўскі, міністар фінансаў Ф.Урончанка, а ў XIX ст. Міністры савецкага ўраду К.Мазураў і А.Грамыка, шмат ваеначальнікаў якія дапамагалі царызму заваёўваць Туркестан, ваяваць з туркамі і г.д. Шмат беларусаў працавала ў расейскай навуцы, таму што царызм закрыў вышэйшыя навучальныя ўстановы на Беларусі пасля тлумлення паўстанняў супраць яго. "Вымыванне мазгоў" з Беларусі ў Расею узбагачала патэнцыял расейскай навукі.

Традыцыя беларускіх культурных суполак у Расеі дасягае сярэдзіныXIX ст., калі ў Пецярбургу па чарзе стварыліся "Крывіцкі вязок", пазней "Гоман", на пачатку XX ст. Беларускі літаратурны гурток студэнтаў Санкт-Пецярбургскага універсітэту, а потым і іншыя. Існавалі такія таварыствы і ў 20-я г.г. у розных кутах Расеі, але хваля чырвонага тэрору знішчыла іх, і адраджацца яны сталі толькі ў часы перабудовы. Найбольш старыя і трывалыя сярод іх Таварыства беларускай культуры імя Фр.Скарыны у Маскве і Беларускае грамадска-культурнаетаварыства ў Пецярбургу, але паспяхова дзейнічаюць і іншыя суполкі, прадстаўнікі якіх прымаюць удзел у гэтым з'ездзе.

Цяжкасці ў захаванні беларускай прысутнасці ў Расеі ўзнікаюць з-за індэферэнтнасці значнай колькасці тутэйшых беларусаў, з-за вялікай іхняй дэнацыяналізацыі. Пашырэнню нацыянальна-культурнай дзейнасці падобных суполак у краіне перашкаджае цяжкае эканамічнае становішча суайчыннікаў. Слабая матэрыяльная база культурна-асветніцкай працы суполак тлумачыцца сціплай падтрымкай іх з боку мясцовых уладаў, абыякавасці да гэтай справы з боку ўладаў Беларусі, якія практычна не выконваюць саліднай праграмы "Беларусы ў свеце", прынятай на дзяржаўным узроўні папярэднім урадам у 1993 г.

Застаецца ў сіле высноwa групы маскоўскіх экспертаў, зробленая яшчэ ў 1993 г. па матэрыялах сацыялагічнага апытання на I Кангрэсе украінцаў Расеі: "Дзеянням уладавых структур усё яшчэ ўласцівыя элементы аднадзённага разліку, старых, дагматычных пазіцый і ілюзій, павдойных стандартаў і прыхаваных задумак, палітычных імправізацый і папулізму, гандлю, якія апраўдваюцца часта аргументамі выключнасці і надзвычайнасці сітуацыі, сусветны палітычны досвед і дадзеныя навуковых даследванняў выкарыстоўваюцца надта недастаткова".

Сведчаннем гэтаму могуць служыць наступныя факты: у Расеі амаль цалкавіта адсутнічаюць беларускія нацыянальныя перыядычныя выданні ( апроч некалькіх самаробных), няма беларускіх школ (хоць яны існавалі ў 1920-я гады ў месцах кампактнага пражывання беларусаў у Сібіры і на Далёкім Усходзе) беларускіх бібліятэк, культурных установ. Намаганні пецярбургскіх і маскоўскіх беларусістаў не прывялі да стварэння спецыялізацыі ў тутэйшых ВНУ, хоць у іх выкладаюцца такія экзатычныя мовы, як суахілі або кхерскі. Няма ў Расеі радыёвяшчання беларускай мовай.

Для супастаўлення: у суседняй з Беларусяй Польшчы, дзе жыве 300 тысяч беларусаў – учацвера менш, чым у Расеі, існуе варшаўскае і беластоцкае беларускія радыёвяшчанні, выходзіць ужо 44 гады тыднёвік беларусаў у Польшчы "Ніва" на 12 палосах (дарэчы ў Вільні выходзіць беларуская "Рунь") ёсць беларускія школы, і шэсць кафедраў беларусістыкі ў ВНУ 5-ці гарадоў Польшчы. Пры гэтым галаслоўных дэкларацый аб братэрстве беларускага і польскага народаў там нешта не чуваць.

Беларускае радыёвяшчанне існуе ў Летуве, дзе беларусаў налічваецца 50 тысяч і Эстоніі існуе іх 25 тысяч. Беларускія школы працуюць у Латвіі, дзе беларусаў – 100 тыс. і Летуве. У Летуве існуе аддзяленне пры педагагічным інстытуце, якое рыхтуе выкладчыкаў беларускай мовы.

Але ўсё гэта яшчэ можна перажыць. Самай галоўнай праблемай існавання і ўстойлівасці беларускай дыяспары ў Расеі, як і ва ўсіх іншых краінах свету, захавання яе, як складовай часткі свайго этнасу з'яўляецца дыскрымінацыя беларускай мовы ў дзяржаўных маштабах у Рэспубліцы Беларусь.

Не гледзячы на працяглую паланізацыю і русіфікацыю Беларусі, этнічнае ядро яе нацыі трывала вылучала нацыянальную эліту – носьбітаў нацыянальнай ідэі і барацьбітоў за яе рэалізацыю ў жыццё. Беларусізацыя пачалася пад час існавання Беларускай Народнай Рэспублікі (1918), працягвалася, як сродак умацавання савецкай дыктатуры, у 20-я годы. Спроба прыпыніць працэс русіфікацыі Беларусі пасля смерці Сталіна насіла характар палітычнага спектакля, бо моўная асіміляцыя рэзка ўзмацнілася з сярэдзіны 60-х гадоў.

Працэс ЛІНГВАЦЫДУ – мэтанакіраванага і асэнсаванага, свядомага выцяснення з абіходу, гэта значыцца, практычнага знішчэння беларускай мовы, як адной з вядучых адзнак этнасу ў Беларусі быў неабходнай умоваю для далейшага ЭТНАЦЫДУ – ліквідацыі дадзенага этнасу, як асаблівай культурна-гістарычнай супольнасці або дэнацыяналізацыі этнасу Другім інструментам для дасягнення гэтай мэты з'яўляецца МНЕМАЦЫД. Я прапаную гэты назоў для азначэння мэтанакіраванага знішчэння калектыўнай памяці Беларусі – сапраўднага вобразу яе гісторыі, які спецыяльна вывучаю. Мнемацыд гэты ў нашых умовах заключаецца ў прапагандзе асіміляцыі беларусаў расейцамі, аўтарытарнай улады, атэізацыі і ізаляцыянізме, асабліва ў школьнай і універсітэцкай адукацыі. Лепшым паказальнікам лінгвіцыду і мнемацыду ва ўмовах Беларусі з'яўляюцца ліквідацыя пасля другой сусветнай вайны выкладання беларускай мовы ў вышэйшых навучальных установах і выкладанне атручанай імперскім духам гісторыі як у ВНУ, так і ў сярэдняй школе. Паколькі ад паступлення ў ВНУ залежаў лёс шматлікіх выпускнікоў сярэдняй школы, бацькі вымушаны былі адмаўляцца ад таго, каб іхнія дзеці навучаліся ў школе на роднай мове.

Гэта дазволіла прыхільнікам русіфікацыі Беларусі хлусліва сцвярджаць, нібыта адмова бацькоў вучыць дзяцей у беларускіх школах адбываецца дабраахвотна. Але ж гэта парушыла 3 параграфы 26 артыкула Усеагульнай Дэкларацыі правоў чалавека, якія былі прыняты на 3-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН ("Бацькі маюць права прыярытэту ў выбары віду адукацыі для сваіх малалетніх дзяцей").

Дзякуючы перабудове 80-х гадоў прыхільнікі адраджэння беларускай мовы ў абіходзе здолелі дамагціся таго, што беларуская мова 26 студзеня 1990 г. была ўзгалошана афіцыйнай мовай Рэспублікі Беларусь. Пачалася новая хваля беларусізацыі, забяспячэння законамі Рэспублікі. Згодна ім побач з беларускаю моваю для вывучэння ва ўсіх навучальных установах абвяшчалася расейская і адна з замежных моваў.

Здавалася б, чаго яшчэ было чакаць? Але з 1994 г. становішча карэнным чынам змянілася. Падобна да таго, што з гэтага часу Беларусь становіцца лабараторыяй, у якой адбываецца эксперымент па адраджэнні таталітарызму. Сацыялізм ужо пабудаваны. Працягваецца характэрная для яго палітыка лінгвіцыду і мнемацыду. Як не прыгадаць даўнія словы М. Багдановіча аб тым, што паняцце "нацыя" і "дэмакратыя" ў выпадку Беларусі супадаюць.

Пачаўся свядомы адыход ад ужывання беларускай мовы у справаводстве і адукацыі. Магчыма, распаўсюджванне яе разглядалася ўладаю, як адзін з індыкатараў адмовы ад прыярытэта даўняй савецкай сістэмы і царскага рэжыму, уніфікаваўшы насельніцтва сваёй разлеглай краіны для больш зручнага кіраўніцтва аднастайнай масаю падданых. Яшчэ 1 снежня 1994 г. першы прэзідэнт Рэспублікі на сесіі Гомельскага гарсавета растлумачыў дэпутатам, чаму не карыстаецца беларускай мовай: "Потому что на белорусском языке нельзя сказать что-нибудь великое. Белорусский язык – бедный язык. В мире существуют только два великие языка –это английский и русский".1

Выкарыстаўшы ўладу, новы рэжым правёў рэферэндум у траўні 1995 г., згодна вынікаў якога расейскай мове быў прыданы статус роўнай з беларускай (нібыта гэтага па сутнасці, фактычна не было раней). Па сутнасці беларуская мова пераўтварылася з дзяржаўнай зноў у другаступенную. Газеты з беларускамоўных сталі пераўтварацца ў двухмоўныя, а двухмоўныя ў цалкам расейскамомоўныя. Тэлебачанне, радыёвяшчанне і выкладанне ў ВНУ сталі практычна расейскамоўнымі.

За гады, што прайшлі з рэферэндуму, былі ліквідаваныя беларускамоўныя дзіцячыя садкі, шматлікія класы, школы. Колькасць школьнікаў, якія паступілі ў класы з беларускай моваю навучання, скарацілася ў два с паловаю разы. У Менску з 130 беларускамоўных школ да лета 1998 г. засталося 17. У Гародні няма аніводнай беларускамоўнай школы. Бацькам часта адмаўляюць у іхнім законным праве вучыць дзяцей на роднай мове. Для аспірантаў Акадэміі навук адменены залік па беларускай мове. На Навапалацкай ЦЭЦ загадана весці дакументацыю выключна на расейскай мове (згодна загаду дырэктара ЦЭЦ Лебедзева ад лета 1997г.). Прысягу маладога воіна Беларусі зачытваюць толькі па-расейску. Міліцыя б'е і арыштоўвае людзей за размову на беларускай мове.

І варта нагадаць у сувязі з гэтым словы гісторыка Т. Маколея аб адным каралі XУІІІ ст.: "Багатая і моцная мова Лютэра, якую выгнала са школ латынь педантаў, а з палацаў – французская мова, знайшоў сабе прытулак сярод народу. Аб моцы гэтай мовы Фрыдрых (ІІ- Прускі В.Г.) не меў ані малейшага ўяўлення. І сама нямецкая мова, і тыя, хто размаўляў ёю, выклікалі ў яго пагарду невука" (Маколей Т. История. Фридрих Великий// Звязда. – 1996. - №3. – С.143).

Да чаго прыводзіць згубная моўная палітыка сучаснага беларускага ўраду, паказваюць лічбы. Прапарцыянальнасць выданняў на беларускай мове складала ў 1987 г 7 адсоткаў, у 1995 г. 12,5%, а ў 1997 г. ужо 5,5% — менш, чым у апошнія гады СССР! (прыклады прыводзяцца з арт. Я. Войніча "Прыгоды беларускіх выданняў" (Чырвоная змена. – II сакавіка 1989 г. – С. 12; і з афіцыйнага статыстычнага даведніка "Республика Беларусь в цифрах" (Мн.,1998. – С.28-29, выданне на рускай і англійскай мовах – адзіных "вялікіх мовах свету").

Для параўнання: у 1925 г. з накладаў кніг і брашур на Беларусі на беларускай мове было 68,5%. Гадавы наклад беларускіх газет у 1986 г. склаў 31,5%, у 1995 г. 5,7%, у 1997 г. 5,6%.

Спайшлюся толькі на адзін прыклад. У 1998 г. выйшаў дапаможнік "Гісторыя Беларусі" пад рэд. Новіка і Мерцуле. Кніжка наскрозь палітызаваная, асімілятарская, поўная апалагетыкі аўтарытарнай улады, ізаляцыяніцкая. Няўжо ня можна было знайсці больш прафесійных аўтараў? Бо складальнікі кнігі спасылаюцца ( і цытуюць нават!) наскрозь мураўёўскі дапаможнік 90-х г.г. мінулага стагоддзя, які напісаў прыхадзень П.Д.Бранцаў, каб давесці беларусам, што яны расейцы.

А натуральны распад СССР у 1991 г., які адлюстраваў безвыніковасць яго мілітарызаванай эканомікі што зрабіла непрыгоднай старую сістэму кіравання эканомікай аўтары прыпісваюць змове трох асоб, хутчэй за ўсё не ведаючых пра " змову" Тэорыю гісторыі" (тэрмін прапанаваны К.Попэрам яшчэ ў 1942 г.), згодна якой усё нібыта дзеецца па злой волі ці ж можна даручаць пісаць дапаможнік янычарам, якія арыентуюцца на даўно адкінутыя ў сметнік метадычныя прынцыпы? Няўжо нельга было знайсці лепшых?

У этыцы існуе прынцып спачування. Ён пачынаецца з таго, каб змагчы паставіць сябе на месца іншага і паглядзець на свет ягонымі вачыма. Мне даводзілася распавядаць старшакласнікам двух пецярбургскіх школ аб сітуацыі з выкладаннем роднай мовы у Беларусі. На маё пытанне да юнакоў і дзяўчат: "Як бы вы адносіліся да таго, каб у аб'яднанай Беларуса-Расеі вас перавялі на беларускую мову навучання, давалі чытаць пераважна беларускія кніжкі, паказвалі б толькі беларускамоўныя тэлеперадачы?" я пачуў гул узбурэння.

На Беларусі ж падобная сітуацыя сярод моладзі ўладамі не ўлічваецца. Перарабляюцца падручнікі, даведнікі, энцыклапедыі на стары савецка-імперскі манер, перапісваецца на той жа манер гісторыя беларусаў.

Пераследуецца нацыянальная сімволіка, Вяртаюцца з нябыту рытуалы камуністычных часоў, у прыватнасці, уведзены пасады намеснікаў кіраўнікоў прадпрыемстваў па інфармацыйнай (г.зн.па палітычнай) часцы, і па працы з моладдзю. Прыцясняюцца правы на адукацыю і інфармацыю і нацыянальных мяншыняў, у прыватнасці, польскай. Прапагандуюцца ідэі аб'яднання слявянскіх і праваслаўных народаў, па сутнасці страціўшыя сваю моц яшчэ ж з пачатка першай сусветнай вайны. Гісторыя ведае тры прыклады існавання дзяржаў на аснове славянскага адзінства: Расейскую імперыю ( і яе мадыфікацыю ў выглядзе СССР), Паўднёваславію і Чэхаславаччыну. Аніводная з іх, па сутнасці, не ацалела, бо яны падпарадкаваліся ненатуральным правілам. Невыпадкова А. І. Салжыніцын папярэдзіў вялікаросаў: "Няма ў нас моцы на імперыю!" Тым больш, што планаванае аб'яднанне Расеі і Беларусі можа выклікаць незадавальненне іншых, неслявянскіх і неправаслаўных этнасаў Расеі і, як вынік, распад Расейскай федэрацыі.

Толькі тое, што я сказаў пра становішча беларускай мовы на Беларусі, сведчыць аб тым, што зацікаўленых у адраджэнні беларусшчыны сяброў беларускіх суполак Расеі не можа не непакоіць імкненне пэўных колаў паскорыць нібыта інтэграцыю Беларусі з Расеяй, а на самой справе звычайную інкарпарацыю ці паглыненне большай Расеяй меншай Беларусі. Калі гэта называюць па прыкладзе аб'яднання у



# СУСТРЭЧА

О, Божа!.. Нарэшце – пасля больш чым дзевяцігадовага расстання і бальшавіцкай няволі – я зноў на Беларусі, туга па якой не пакідала на чужыне ні днём, ні ноччу. Зноў іду па слонімскай зямлі, зямлі майго юнацтва, зямлі маіх продкаў.

Сустрэчы, сустрэчы, успаміны... У позірках знаёмых заўважаю то шчырую і непрыхаваную радасць ад спаткання, то насцярожаную заклапочанасць і прысутнасць нейкага страху. Апошніх болей. Яны стараюцца абмяжоўвацца некалькімі кароткімі фразамі і хутка развітваюцца. Ёсць і такія, якія робяць выгляд, што не заўважаюць ці не пазнаюць. Па іх паводзінах можна зразумець, што гэта партыйцы, або тыя, што трымаюцца бліжэй да ўладнага карыта. З усяго гэтага ўсё выразней пачынаю заўважаць змены ў псіхіцы землякоў, асабліва гараджанаў і інтэлігенцыі. За нейкіх дзесяць пасляваенных гадоў рэжымная прапаганда і запалохванні змянілі ўзаемаадносіны людзей.

Асабліва канкрэтна зразумеў я сваё цяперашняе становішча і месца ў грамадстве, калі праз некалькі дзён звяртаўся ў раённы аддзел міліцыі, каб зарэгістравацца і прыпісацца да сям'і сястры і швагра. Работніца аддзела азнаёміўшыся з маімі дакументамі і падазрона агледзеўшы мяне, заявіла, што тут я цяпер усё жыццё буду заставацца пад наглядам спецслужбаў.

— Пад якім наглядам? — запярэчыў я. – Я Вам прадставіў дакументы аб датэрміновым вызваленні і зняцці судзімасці, якія выдадзены на падставе рашэння камісіі Вярхоўнага Савета СССР.

— Бачу вашыя дакументы і таму папярэджваю. Проста, папярэджваю, — спакойна і катэгарычна адказала яна, робячы нейкія запісы ў сваіх і маіх паперах. Праз некалькі хвілінаў вярнула мае дакументы, яшчэ раз уважліва акінуўшы мяне ўладным паглядам. На маёй даведцы аб вызваленні і зняцці судзімасьці коса быў зроблены ёй запіс: "Взят на учет Слоним. ГОММВД 13.XII.56г" і подпіс. Цяпер стала зусім зразумела, што ўсе кантакты знаёмых са мною будуць адсочвацца спецслужбамі – гэта значыць тым жа КДБ. Менавіта на гэтую стабільную савецкую рэальнасць цяпер і мне належала звярнуць увагу, каб не падстаўляць пад непрыемнасці блізкіх людзей.

Зразу ж увесь мой ранейшы трыумф і радасць ад сустрэчы з Бацькаўшчынай і так чаканай воляй раптоўна пазмрачнелі. Між намі ва ўсёй яве ўстаў чорны цень рэжымнай савецкай прысутнасці. А неўзабаве цень гэты ператварыўся ў рэальных сексотаў і рознага кшталту прыліпалаў. У хату да нас ні з таго, ні з сяго зачасціў з наведваннем нейкі пажылы тып у форме вайскоўца (побач размяшчаліся вайсковыя кашары). Ён назваўся Лаўровым і знаёмым былых кватарантаў, перадаў ад іх прывітанні. Некалькі разоў спрабуючы навязаць размову са мною, ён распытваў пра планы і настрой. Але я зусім не жадаючы ўступаць у гутарку, сыходзіў з хаты. Пабачыўшы, што наладзіць кантакт не ўдаецца, магчыма заўважыўшы маю недружалюбнасць, няпрошаны "госць" праз нейкі час знік. Прайшла чутка, памёр. Але спробы з падсадкамі на гэтым не спыніліся. Пачалі выклікаць на "гутарку" у ваенныя спецорганы швагра, як былога франтавіка і, магчыма, гаспадара дома. Можна здагадвацца, што нешта прапаноўвалі, запалохвалі, бралі распіску.

Мае спробы ўладкавацца на працу па адной з спецыяльнасцяў адмаўляліся па прычыне адсутнасці дакументаў, якія былі канфіскаваныя. Патрэбна было больш уважліва прыглядзецца да сітуацыі, можа нават параіцца з надзейнымі людзьмі, якіх трэба было адшукаць.

Я ўспомніў пра Геніюшаў, што жылі ў недалёкай Зэльве і з якімі перапісваўся з Поўначы, бо яны вярнуліся на Беларусь раней за мяне. З Ларысай Антонаўнай я ў канцлагеры амаль два гады папольна ліставаўся так званымі міжлагернымі "ксівамі", вырашаючы розныя палітычныя і складаныя бытавыя пытанні, давяраючы ва ўсім. Завочна пазнаёміўся ў Варкуце праз доктара Глеба Багдановіча і з мужам Ларысы – Янкам Геніюшам, доктарам, які там адбываў тэрмін свайго пакарання. Гэтыя людзі былі для мяне найбольш надзейнымі і дасведчымі дарадцамі і сябрамі ў дадзеных умовах. Там, у няволі мы заставаліся самымі блізкімі і шчырымі сябрамі, жылі аднымі надзеямі і мэтамі, аднымі памкненнямі і ідэямі. Марылі аб вяртанні ў родныя мясціны, духоўна падтрымлівалі адзін аднаго. Цяпер мары нашыя збываліся не па нашаму сцэнарыю і хацелася параіцца, сустрэцца, вочна пазнаёміцца. Сустрэча была не толькі жаданай, але і вельмі неабходнай. Гэта быў сяброўскі абавязак і доўг.

І я вырашыў неадкладна наведаць сям'ю Геніюшаў. Усё ж вельмі карцела сустрэцца і нарэшце пазнаёміцца з той цікавай, загадкавай, таленавітай і такой блізкай для мяне ва ўмовах канцлагернай самоты Ларысай, якая так шчыра і цёпла запаўняла пустэчу нявольніцкіх дзён і месяцаў. Я ўяўляў яе амаль ідэалам жанчыны: высокай, стройнай, прыгожай, з блакітнымі, як неба, вачамі, мілагучнай чаруючай гаворкай, чулым і добрым сэрцам. Надзвычай не вобраз самымі цудоўнымі якасцямі, якой хацелася бачыць свой ідэал. Хоць ведаў, што такіх у жыцці не бывае, яны бываюць толькі ў мроях.

Пасля таго незвычайнага завочнага знаёмства і шчырай канцлагернай перапіскі прайшлі гады, сітуацыя рэзка змянілася. Мінулае ўспаміналася, як цяжкі сон, ад якога нельга было адмахнуцца. У памяці ўсё яшчэ ўсплывалі трывожныя асацыяцыі звязаныя з няволяй. Цяпер жа патрэбна было асцярожна і абачліва прыстасоўвацца да новых абставін, складаных і загадкавых.

Такая дарагая і бясконца любая Бацькаўшчына, якая ўвесь час клікала і грэла сэрца доўгімі гадамі расстання, сустракала нібы крадучыся праз чужацкія заставы.

Я ехаў у Зэльву. Блізіўся да канца 1956 год. Наваколле, пакрытае снежнай беллю, павольна плыло за шыбамі аўтобуса і неяк хвалюючы кранала сэрца. Гэта была не запалярная тундра, а такая родная Беларусь. Зноў вярталіся ўспаміны і між імі ўжо крыху прызабытыя пачуцці, навеяныя колішнімі канцлагернымі "ксівамі" ад Ларысы Геніюш, яе цудоўнымі палкімі вершамі і чым бліжэй была Зэльва, тым больш адчувалася хваляванне. То хацелася прыспешыць момант загадкавай чаканай сустрэчы, то з'яўлялася жаданне адцягнуць развязку таго рамантычнага завочнага сюжэту, які так цёпла і шчыра грэў збалелыя сэрцы ў лядоўнях няволі і нескароным змаганні за жыццё. Час заўсёды згладжвае кантрасты пачуццяў і цяпер яны сталі нерэальнымі, ды і патухлымі. І ўсё ж хацелася сустрэцца з загадкавай Ларысай Геніюш – цудоўнай сяброўкай па барацьбе з супольным ворагам, таленавітай паэтэсай, сябрам, што так пяшчотна гаіла раны нанесены катамі.

... Вось і прыпынак аўтобуса. Шафёр абвясціў:

— Зэльва! Стаянка пяць хвілін.

Аказалася, што само мястэчка (цяпер пасёлак) размешчаны воддаль ад прыпынку аўтобуса і шашы Слонім-Ваўкавыск. Я не быў знаёмы з гэтым населеным пунктам, але зблудзіць тут было немагчыма, бо да так званага цэнтра яго вяла адзіная вуліца з вясковымі хатамі. Па ёй і накіраваўся я ў пошуках вядомага па перапісцы адраса. Ісці давялося не вельмі доўга. Першая ж брукаваная вуліца, што адходзіла направа была Савецкая. З лістоў я ведаў – на гэтай вуліцы, дзе стаяла царква, пад чацвёртым нумарам, у доме на два канцы жылі Геніюшы. Адчыніўшы брамку, сустрэў жанчыну, якая з цікавасцю аглядзела мяне і запытала:

— Вы да каго?

— Геніюшы тут жывуць? — звярнуўся я.

— Вунь іх ганак, — паказала яна незадаволена.

Адкрыты старэнькі ганак з лаўкай і драўлянымі прыступкамі патрабаваў рамонту. Але мяне цікавіў не ён. Праз некалькі хвілінаў мела адбыцца сустрэча з так паважанымі мною але зусім незнаёмымі людзьмі. І да сустрэчы гэтай я ніяк не мог падрыхтавацца, настроіцца. Жанчына ж з суседніх дзвярэй усё яшчэ праводзіла мяне паглядам, што не давала магчымасці замарудзіць рашэнне. Адчыніўшы дзверы ў сені і нагледзеўшы клямку, я ўпоцемку пастукаўся ў хату.

— Заходзьце! Калі ласка! – гучна азваліся жаночы і мужчынскі галасы. Неяк няёмка ўваліўшыся праз высокі парог у хату, я ўбачыў за сталом пры вакне жанчыну і мужчыну. Яны з цікавасцю разглядвалі мяне, нібы пытаючы: "Вы да каго?" Акінуўшы паглядам хату, шукаючы свой уяўны жаночы "ідэал" і не знайшоўшы, я паведаміў крыху раз-гублена:

— Я, Васіль Супрун. Добры дзень!

Пажылая, паўнаватая жанчына раптам замітусілася і падбегла, працягваючы руку з словамі:

— Вось Вы які? Ну, добры, добры дзень, Васіль Супрун! Праходзьце, калі ласка. Распранайцеся.

Звярнуўшыся да худзенькага мужчыны, яна спрабавала растлумачыць хто я і пазнаёміць нас. Але мужчына павітаўшыся са мной, апярэдзіў:

— Нас у Варкуце завочна пазнаёміў доктар Багдановіч. Звяртаючыся да мяне, ён запытаў:

— Памятаеце такога? Цудоўнейшы чалавек Глебка.

— Як не памятаць, такіх не забываюць, — адказаў я.

Увесь гэты час жанчына – як цяпер я пераканаўся – была гэта менавіта Ларыса Антонаўна Геніюш, уважліва разглядвала мяне, магчыма параўноўваючы з фантазіяй былога ўяўлення.

— Іван Пятровіч, дапамажы спадару Васілю распрануцца, — прапанавала яна мужу, даючы зразумець, як я павінен звяртацца да гаспадара. Актыўнасць якога ў роспытах не дазваляла мне ўважлівей разглядзець свой колішні уяўны "ідэал".

Калі нарэшце гутарка перайшла ў спакойнае рэчышча, я непрыкметна стараўся разглядзець у асобе гаспадыні, простай, нічым не адметнай немаладой жанчыне, той паэтычны талент, дыпламатычны такт і эрудыцыю, якімі так захапляўся ў час завочнага знаёмства і ліставання ў канцлагеры. І ніяк не мог пагадзіцца з тым, што маё ўяўленне было такім далёкім ад рэальнасці. Стала нават сорамна за тое сяброўскае панібрацтва, тое беспардоннае "Ты", якое гледзячы на гэтых паважаных і культурных, на многа старэйшых за мяне людзей, цяпер змушала чырванець, тушавацца і адчуваць сябе вельмі няёмка. Верагодна заўважаючы гэта, Ларыса Антонаўна ні паводзінамі, ні размовамі не ўскладняла сітуацыю, але дасціпна разглядвала мяне, нібы зазірала ў душу. Я ж стараўся сачыць за сваёй гаворкай і адказваць на дзесяткі самых розных пытанняў. Геніюшаў цікавіла – і калі я вярнуўся на Беларусь, і дзе працаваў апошнія паўгода, і дзе затрымаўся цяпер, і як сустрэлі знаёмыя, як сустрэла мясцовае начальства, якія планы на будучае, і многае іншае. Згадалі і агульных знаёмых. Ад некаторых яны ўжо атрымлівалі лісты. Шэптам паведамілі аб сваім становішчы і адносінах з мясцовай уладай, бо адмовіліся ад савецкага грамадзянства. Ціха папярэдзілі, што нас могуць падслухоўваць, бо суседка, што жыве за сцяною "іхняя".

Паступова я адыходзіў ад шоку. Усё ж хацелася параіцца наконт перспектывы і адаптацыі да няпростых умоваў сучаснасці. Сустрэча была абмежавана часам, бо Івану Пятровічу патрэбна было ісці на дзяжурства ў лякарню, дзе ён працаваў доктарам, а мне – на аўтобус.

Праз некалькі гадзінаў напружанай гутаркі і сяброўскага знаёмства, усе мы накіраваліся спачатку да лякарні, а затым Геніюшы праводзілі мяне на аўтобусную станцыю. Дачакаліся прыходу аўтобуса і пасяброўску развіталіся.

Такім было маё першае спатканне і вочнае знаёмства з шаноўнымі Геніюшамі. Едучы ў аўтобусе, я няспешна аднаўляў у памяці моманты нядаўняй сустрэчы і супастаўляў іх з пачуццямі навеянымі калісці цудоўнымі вершамі і палымянымі "ксівамі" Ларысы, якія ўспрымаліся ў часы трывожнай і пакутнай няволі, як чаканыя сустрэчы самых блізкіх і дарагіх людзей.

Усё гэта засталося ў мінулым. І менавіта сёння, фактычна, адбылася рэальная развязка таго ўзнёслага рамантычнага сюжэту, ад якога засталіся толькі ўспаміны і тыя хвалюючыя вершы з былога нявольніцкага канцлагернага ліставання. Вершы гэтыя, нягледзячы на складанасць умоваў і небяспеку, я ўсё ж захаваў, як дакументы часу, як Памяць.

*Васіль Супрун.*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
**Адрас рэдакцыі:** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** ns@lida1.lingvo.grodno.by

**Рэдакцыйная калегія:** Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Лілея Сазанавец, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Кошт па дамове. Газета падпісана да друку 26. 04. 99 г.
Наклад 4300 асобнікаў. Замова № 999.
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 20 000 руб., 3 мес.- 60 000 руб.
**Кошт у розніцу:** 7 000 руб.